Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—5 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Чацьвер, 10 ліпня 1919 г. № 41.

**Агульнае сабраньне Беларускага Таварыства помачы пацярпеушым ад вайны.**

„Беларускі Камітэт помачы пацярпеушым ад вайны“ гэтым наказавае, што у чацьвер 10-га ліпня у 7 гадз. увечары у залі Беларускай гімназіі, Вастрабрамская № 9, склікаецца агульнае сабраньне сябрау „Беларускага Таварыства помачы пацяр-пеушым ад вайны“.

Сабраньне важна пры усякай лічбе сябрау.

**Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны.**

## Становіцца ясьней.

Калі мы, пасьля безрэзультатных спробаў знайсьці той ці іншы выхад з дрэннага палажэньня, якое стварылася для незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, прыйшлі да пераконаньня, што прычынай гэтага зьяўляецца няяснасьць і навет поўная адсутнасьць у палякоў іх палітычнай праграмы па беларускаму пытаньню, то нам адказалі (гл. № 63 «Наш. Краю»), што «Беларусь цяпер свае незалежнасьці рэалізаваць ня можа. Ня мае яна ні грошаў, ні палітычных і адміністрацыўных спэцыялістаў, ні войска, ні паверу ў суседзяў».

Гетакае шчырае прызнаньне з боку не эндэцкага «Нашага Краю», каторы, як кажуць, ёсьць як-бы афіцыоз палітыкі Пілсудзкага і падтрымліваючых яго кругоў,—вельмі для нас цэнна.

Яно праконавае нас у тым, што навет з боку радыкальнага і сацыялістычнага польскага грамадзянства мы ня можам чакаць падтрыманьня свайго пажаданьня незалежнасьці і непадзельнасьці. Мы можам чакаць, значыцца, таго, што нас зрэалізуюць неяк іначай: зробяць падзел нашай бацькаўшчыны і зробяць нас залежнымі.

Вельмі і вельмі дзякуем «Нашаму Краю» за шчырае прызнаньне. Цяпер мы праконаны даволі, чаму наша справа дамаганьня незалежнасьці «няйдзе ані трохі наперад».

Ясна, што ў Польшчы няма каму стаць за абарону спраў. У Польшчы аб нашых справах думаюць інач́ай, там думаюць аб тым, што ўхваліў нядаўна Сойм,—гэта выбары ад Горадзеншчыны і Віленшчыны, якія Сойм будзе лічыць плебісцытам.. Цікаўна, што Сойм прыняў гэты ўносак аднагалосна.

Мы ведаем, што пры цяперашніх варунках, калі ў Віленшчыне і Горадзеншчыне ўсё беларускае ня толькі не шануецца, але церпіць розныя прашкоды, калі значная часьць бежанцаў-беларусаў яшчэ не вярнулася дамоў, такія выбары могуць даць сьлёзныя для нас рэзультаты. Няхай польскі сойм робіць сваю нядобрую работу, пачынаючы іншым, як раней, спосабам падзел Беларусі. Мы на гэтакія крокі знойдзем, як адказаць.

Калі палітыка Польшчы да Беларусі пойдзе дарогаю анексый, хоць і задрапірованаю ў вопратку плебісцыта і выбараў, то нам, ня гледзячы на нашы пажаданьні жыць з палякамі ў згодзе і можа навет больш, як у згодзе—прыдзецца павярнуцца сваім тварам у другі бок.

«Наш Край» гаворыць, што «Польшча да апошняй пары ня ведае, ці будзе мець у беларусах прыяцялёў, ці ворагаў». І «Наш Край» хоча, каб мы, беларусы, праканалі палякоў у сваіх прыяцельскіх да іх адносінах. «Тады будзе можна гаварыць ня толькі аб тым, што Польшча стаіць на грунце утвараньня незалежнай дзяржавы беларускай, а і аб чымсі большым—аб канкрэтнай будове гэтай незалежнай дзяржавы».

Сьмех ды й толькі!

Няўжо дзеля таго, каб пачаць будаваньне беларускай дзяржавы паляком патрэбна толькі прыязная міна на нашым твары?

Вядома, што гэта—абсурд. Палітыка будуецца на падвалінах узаемнай карысьці ці шкоды, якая вымагае ў зацікаўленых народаў прыязныя ці непрыязныя паміж імі адносіны. Паляком ведама, што мы жадаем незалежнасьці і непадзельнасьці, значыць—мы проціў усяго, што прыносіць шкоду гэтым аснаўным нашым пажаданьням. І што-ж мы бачым? Адну адозву начальніка польскага гасударства пана Язэпа Пілсудзкага, каторая не дала і ня дасьць беларусам нічога, апрача самай злоснай процiў усяго беларускага працы польскіх клерыкалаў і эндэцыі.

Вось—рэальны рэзультат той палітыкі, каторая чакае ад нас прыязнасьці, а сама рэальна выражаецца ў зьдзеку над усім беларускім і ў кроках к далучэньню.

Калі мы гаварылі, што ў Польшчы няма гасударсьцьвенага пляну ў адносінах да Беларусі, то мы мелі на ўвазе, што такі плян не апрацован. Цяпер мы нахільны думаць, што плян такі ў палякоў ёсьць і заключаецца ён у далучэньні да Польшчы Горадзеншчыны і Віленшчыны, а можа і больш. Вядома, што мы ў такім сэнсе прыязных адносін да Польшчы ня выкажам, і навет, станем у варожыя, і будзем шукаць хаўруснікаў дзеля абароны нашай бацькаўшчыны процiў Польшчы.

Гарро.

## Беларусь.

**Жыды вінаваты.**

Польская газэта «Gazeta Poranna» у 182 нумары падае вельмі цікавую заметку аб сэймавай хроніцы, у якой гаворыцца аб дэлегацыі з Палесься, якая мела ў кулуарах гугарку з панам маршалкам. У склад гэтай дэлегацыі, як паведамляе

газета, уваходзілі прадстаўнікі ад розных нацыянальнасьцяў і рэлігіяў. Шмат хто з дэпутатаў гэтай дэлегацыі казаў аб сваіх жаданьнях, каб Палесьсе далучыць да Польшчы. Але вельмі больна было чуць, піша газэта, калі усе дэпутаты аднагалосна жаліліся на польскую адміністрацыю, якая назначана польскім урадам. Кіраўнікі дэлегацыі п. Ян Урсын-Немцэвіч і кс. Буклаба даводзілі, што польская адміністрацыя ў Пінщчыне, главным чынам у Кобрынскім павеце, Пружанскім і Бярасьцейскім забараняе вясьці агітацыі аб далучэньні Пінщчыны да Польшчы і дазваляе вясьці шырокую агітацыю на карысьць Беларускай дзяржаўнасьці. Кіраўнікі дэлегацыі жаліліся главным чынам што ў Пінщчыне шырыцца беларуская агітацыя і што гэтую агітацыю між іншымі на гвалт вядуць жыды.

**Валерыя Дударава**
**з Душэускіх**
**пасьля цяжкай хваробы памерла 9-го Ліпня 1919 г. на 35 гаду жыцьця.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Літоускага Генеральнага Штабу.

*2 ліпня.*

На паўночным вучастку ў ваколіцах Ялоўка-Сувека дзеяльнасаць разьведчыкаў.

Мы ўзялі ў палон рускі кавалерыйскі штаб дзівізіі. Непрыяцель адходзіць у кірунку Дайгялы, Заросы, Ежыоросы. Нашыя разьведчыкі высунуліся наперад.

З абодвух бакоў дзеяльнасьць пушак і кулямётаў.

*3 ліпня.*

На паўночным вучастку непрыяцель хоча пасіліць свае пазыцыі. Стычкі аддзелаў разьведчыкаў. На левым крыле паўночнага фронту вораг выбіты з Якунец, Езефова і Балтрычек. На правым крыле дужая дзеяльнасьць варожых разьведчыкаў іх адагнала наша артылерыя. У начы мы занялі важныя з стратэгічнага боку пазыцыі і забралі палонных.

### Палова Менска ў руках польскай ваеннай арганізацыі.

БРЭСТ-ЛІТОУСК. «Gaz War» тэлеграфуе: Часьць Менску з гэтага бока Сьвіслачы знаходзіцца ў руках польскай ваеннай арганізацыі. Частка места з другога боку ракі знаходзіцца яшчэ ў руках бальшавікаў.

### Лёс Рыгі.

БЭРЛІН. Паміж латышскімі і эстонскімі войскамі заключона пераміре. Нямецкія войскі выходзяць з Рыгі. Эстонцы астаюцца на сваіх пазыцыях, а латышы займуць места.

### Плебісцыт у Верхняй Сілезіі.

«Die Zeit» піша, што прэзыдэнт Вільсон дазволіў каб у часе плебісцыту ў Верхняй Сілезіі былі там прысутнымі 500 амэрыканскіх жаўнераў.

### Лойд-Джорж аб Польшчы.

Парыжскі карэспандэнт «Przeglądu Wieczornego» піша, што Лойд-Джорж у размове з адным паляком, занімаючым важнае ўрадовае становішча ў Польшчы, прызнаўся, што Польшча дорагá заплаціць за заблуджэньні аднаго з сваіх дзеячоў.

На запытаньне аб кім ён гэта гаворыць, Лойд-Джорж адказаў, што кажа аб Дмоўскім.

### Брыан—заступнік Клемансо.

У Парыжу лічуць Брыана заступнікам Клемансо на пост прэзыдэнта міністраў. Брыан знаходзіцца цяпер у цесных адносінах да сацыялістаў-радзікалаў. Факту гэтаму прыдаюць вялікае значэньне, бо думаюць, што дзякуючы гэтаму, у кабінэт міністраў увойдзе большая лічба міністраў сацыялістычных.

### Прыезд ген. Денікіна ў Парыж.

Урад Колчака дэлегаваў ген. Денікіна ў целях інформацыі коаліцыі аб вайсковым і палітычным палажэньні у Расеі. Генерал Денікін прыехаў ужо ў Парыж разам з Драгаміравым, гр. Паніным і 8 афіцэрамі.

### Чаму прызналі ўрад Колчака?

ПАРЫЖ, 7—VII. Коаліцыя адцягівала прызнаньне ўраду Колчака, баручы пад увагу яго няўдачы ў барацьбе з бальшавікамі і непрыхільны настрой Колчака да вызваліўшыхся з пад ярма Расеі, цяпер незалежных дзяржаў. Але Японія зусім неўспадзеўкі паведаміла Антанту, што яна ўжо прызнала ўрад Колчака. Тады коаліцыя, ня хочучы, каб Японія скарыстала з мамэнту і адна апанавала Сыбір'ю, таксама прызнала ўрад Колчака, дала яму помач і дакляравала супольную барацьбу з бальшавікамі.

(П. А. Т.).

### Польшча і Антанта.

ПАРЫЖ. Гавас. У вумове, зробленай паміж Польшчай і Антантай, знаходзіцца пункт, што Польшча даецца права свабоды транспарта з шырокімі прывілегіямі. Польшча па гэтай умове, адпавядае за ўрадавыя даўгі Расеі і за другія фінансавыя абавязкі, прынятыя на сябе расейскай дзяржавай.

### Гановэрскае каралеўства.

БЭРЛІН, 7 ліпня. Водле інформацыі „Nat. Ztg." у Гановеры ідзе агітацыя, каб тутака зрабіць каралеўства з дынастыяй Гумбэрляндаў. Англія гэты дужы рух спыняе.

### На днях будзе забастоўка ва Францыі.

ВЕНА, 6 ліпня „N. Fr. Presse" піша: зьезд францускаи работніцкай партыі пастанавіў зробіць 21 ліпня агульную забастоўку. Разам з гэтым ёсьць проэкт, каб у гэты-жа дзень адбывалася забастоўка ў Італіі. Мэта забастоўкі—протэст процiў убунтаваньня ў рускія справы, дэмабілізацыя, поўная адбудова ўсіх канстытуцыйных гаранцыяў, энергічныя меры барацьбы з спэкуляцыяй.

### Амэрыканцы і французы, якія знаходзяцца ў арміі Галлера, едуць дамоў.

КРАКАУ, 6 ліпня „Ганец Кракоўскі" друкуе аб пастанове Антанты забраць з арміі Галлера ўсіх францускіх і амэрыканскіх салдатаў, якія маюць ад 35 да 45 гадоў.

# У ВІЛЬНІ.

### Сход безработных.

8 ліпня увечары на Вострабрамскай вул., №, 9 адбыўся сход безработных беларусаў, арганізаваны Беларускім Нацыянальным Камітэтам.

На сход прыйшло болей за 200 чалавек розных прафэсій—ад простых да інтэлігентных работнікаў.

Безработныя ў прамовах казалі аб сваім нязвычайна цяжкім палажэньню і жаліліся, што польская ўлада нічагуткa ня робіць, каб ратаваць іх.

Сход вынес гэткую рэзалюцыю:

«Агульнае сабраньне безработных, выслухаўшы даклад прадстаўнікоў Нацыянальнага Камітэта аб справах безработных, пастанаўлае: «Безработнасьць, выкліканая акупацыяй, робіцца стыхійнай бядою. Памагчы гэтаму можна толькі шчыльным гуртаваньнем каля нашых нацыянальных ўладаў. Гэтыя ўлады мы падтрымываем і даручаем ім 1) дабівацца самым энэргічным спосабам ад акупацыйнай ўлады, каб нам была дадзена ці праца ці якая іншая дапамога; 2) дабівацца ад польскіх ўлад, каб яны ня робілі рожніцы паміж праваслаўнымі і каталікамі, калі прыймаюць на ўрадовую службу, бо цяперашнія мерапрыняцьці польскіх ўладаў ідуць у разрэз з адозваю Начальніка Польскай Рэспублікі».

Тут-жа арганізавалася арцель лясных работнікаў.

### Набажэнства.

12 ліпня (29 чэрвеня) адбудзецца у Троіцкім манастыру (Востра-Брамская, № 9) набажэнства на чэсьць святых апосталаў Петра і Паўла. Будуць служыць тры сьвяшчэньнікі. Пропаведзь будзе ў Беларускай мове.

Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.